Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 30. Вільня, Чацьвер 23 Верасьня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.

Цана абвестак:
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Неадкладная справа.

Моладзь усіх народаў ува-ўсе часы была й ёсьць прагрэсыўнаю. Яна заўсёды імчыцца ўперад, яна ахвотна бярэ ўсё новае, харошае, брацкае, справядлівае і праводзіць яго ў жыцьцё. Яна ў большасьці сваёй не баіцца працы, лічыць яе неабходнай у жыцьці кожнага чалавека. Яна-ж ёсьць магутным фактарам у пашырэньні веды сярод свайго народу. Вось чаму ўсе народы ўва ўсе часы лічылі сваю моладзь апораю, авангардам свайго існаваньня, не шкадавалі ані матар'яльных, ані духовых сродкаў, дзеля яе арганізацыі.

Даволі ўспомніць старавечнаю Грэцыю, Рым, дзе моладзь была пад бязустанным даглядам гаспадарства, каб зразумець, наколькі гэтай справе прыдавалі значэньня ў тыя часы. Дый цяпер у культурных краёх Заходняй Эўропы гэтая справа стаіць на вялікай вышыні. Асабліва шырака пастаўлена арганізацыя моладзі ў Амэрыццы. Тамака гэная арганізацыя дайшла вялізарных разьмераў. Моладзь кожнае вёскі, мястэчка, злучана ў Амэрыцы ў свой саюз, дзе, пад кіраўніцтвам адданых гэтаму дзелу людзёў, расьце, разьвіваецца, вучыцца, аддыхае. Маюць свае часопісі, кнігі, бібліотэкі, народныя дамы, і кожны, хто дзеля тых, ці іншых прычынаў ня мог вучыцца ў сьценах школы, можа лёгка гэта папоўніць седзячы сабе ў хаце.

У нас-жа ў Беларусі такой арганізацыі аусім няма. Нашая моладзь, асабліва сялянская, пакінена сама-сабе. Жыцьцём яе мала хто цікавіцца. І вось пакіненая сваім сілам нашая вясковая моладзь саматугам пачынае прабіваць сабе дарогу да лепшай долі. Ладзіць вечары-спэктаклі, канцэрты, лекцыі, арганізуе бібліотэчкі-чытальні, народныя дамы. Усё гэта паказуе, што нашая салянская моладзь, прачыхаецца ад сну і гатова ўжо да сур'ёзнага, арганізацыйнага будаўніцтва свайго жыцьця. Неабходна толькі тое, каб гэтую выпадковую не арганізаваную працу нашай моладзі—злучыць, зьвязаць у вадну цэласьць, у вадзін цэнтр адным словам трэба стварыць *Беларускі Сялянскі Саюз Моладзі.*

Гэта была-б арганізацыя чыста культурна-асьветная, дзе-бы нашая моладзь магла праявіць сваю самадзейнасьць у шырэйшым маштабе, мела-бы абарону, памогу, пляновую сыстэму для свае працы. Нашым паслом, ці культурна-асьветным таварыствам, прыкладам Бел. Інст. Гасп. і Культуры, трэба сур'ёзна заняцца гэтаю справаю, пачаць якія-колечы крокі дзеля арганізаваньня такога саюзу, бо гэта справа неабходная ў жыцьці нашай моладзі. Цяжка глядзець на моладзь, каторая працуе, траціць свае сілы неарганізавана, бязь ніякага пляну, а так сабе выпадкам, тады калі ёсьць поўная магчымасьць з боку нашых паслоў, ці культурна-асьветных таварыстваў памагчы ёй выбрацца на дарогу і ўжо арганізаванай дарогай разьвіваць свае культурныя сілы, сваю самадзейнасьць дзеля нашай многапакутнай Бацькаўшчыны.

*Канст. Матусэвіч.*

## Да ведама падпішчыкаў.

«Сялянская Ніва» акуратна выходзіць у кожны чацьвер нараніцы. На ўсе пошты ў Заходняй Беларусі прыходзе найпазьней на другі дзень, гэта значыцца ў пятніцу. Калі ў гэтым часе падпішчык не дастане газэты на пошце, няхай аб гэтым паведаміць у адміністрацыю «Сял. Нівы».

## Прыняцьце АБСА у сябры СІЕ.

*(Паводле гутаркі з сябром прэзыдыуму, што вёў прыгатавальную працу прыняцьця АБСА ў сябры СІЕ грам. В. Русаком і сябрамі беларускае дэлегацыі на конфэрэнцыю СІЕ).*

Першая спроба ўступіць ў СІЕ (Confederation International des Etudients, пабеларуску: Міжнародная Студэнцкая Конфэдэрацыя) была зроблена ў тым самым годзе, калі АБСА (Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыеў Заходняе Беларусі і эміграцыі) залажылася, гэта знача ў 1924 г. а СІЕ мела сваю чарговую конфэрэнцыю тады ў Варшаве. Дзякуючы няўдаласьці беларускага дэлегата, які ўжо стаў зьменатычнікам, беларускае студэнства тады ня было прынята.

Праца АБСА пасьля такое няўдачы з вонкавага боку як-бы замерла, але ўнутры вялася і стараліся дабіцца зацьверджаньня статуту чэскаю ўладаю. Толькі ўлетку 1926 г. статут быў зацьверджаны і АБСА мела сваю нараду ў Празе, дзе было пастаноўлена зрабіць усе формальныя захады ў СІЕ аб прыняцьці ў сябры. Захады былі зроблены і цэнтраля СІЕ паведаміла, што пытаньне прыняцьця будзе разглядацца на конфэрэнцыі СІЕ, якая мае быць 18—28.VIII. 1926 г. ў Празе Чэскай. Цэнтраля СІЕ ёсьць у Бруссэлі (Бэльгія). Заданьне паўстала нялёгкае, трэба было прыгатавацца да конфэрэнцыі, выдаць бюлетэнь, увайсьці ў зносіны з асобнымі студэнцкімі арганізацыямі, асабліва ўкраінскімі, грузінскімі, англіцкімі, чэскімі і іншых народаў, як найшырэй інфармаваць эўропэйскія студэнскія арганізацыі аб Беларусах і беларускім студэнцтве. Адсутнасьць мінімальных сродкаў давалася адчуваць асабліва. Ня гледзячы ні на што, праца павялася. Да таго яшчэ шмат сяброў праўленьня АБСА разьехалася на лета на практыку. Прышлося весьці працу адзінкам, што асталіся ў Празе. Выдатную помач далі некаторыя сябры Сялянскага Саюзу, бесстароньне падходзячы да справы. Беларуская дэлегацыя складалася з трох сяброў; старшынёй яе быў сябра Я. Ермачэнка. Пасьля афіцыяльнага адкрыцьця конфэрэнцыі СІЕ ўся праца вялася па камісыях, а потым для канчальнага зацьвярджаньня прадстаўляліся ўсе прастудаваныя пытаньні пленуму. Справа беларускага студэнства, як новаўступаючага сябры, разьбіралася ў камісыі прапаганды. Было ведама, што проці ўходжаньня АБСА ў СІЕ ёсьць два пратэсты: адзін ад рускага чарнасоценнага студэнцтва, арганізаванага ў ОРЭСО, а другі падалі беларускія „паступоўцы",—тварцы „Праменя" із зьменатычнікамі. Было дзіўна і сьмешна, але ня шкодна для беларускага студэнцтва. Узьнімаецца пытаньне: што можа быць супольнага паміж ОРЭСО (чарнасоценцамі) і зьменатычнікамі БСРР? Але інтарэсы іх зыйшліся. Стала ясна, што яны хочуць ходацца ўсе проці беларускае культуры і наагул проці беларускага адраджэньня. Як ведама, зьменатычнікі беларускія не далі навет кніг на выстаўку беларускую. Гэта мусіць быць запамятавана і трэба добра ведаць усім, хто непрыяцель нашае Бацькаўшчыны. Прапагандная камісія, што забрала падробныя весткі аб АБСА і наагул аб беларускім студэнцтве, не зьвярнуўшы ніякае ўвагі на протэсты, перадала 26.VIII.26. справу ў пленум дзеля прыняцьця. Пленум конфэрэнцыі СІЕ, пасьля зрэфэраваньня нашае справы кіраўніком прапагандкае камісіі, прыняў АБСА аднагалосна ў сябры. Прыхільна адносіліся да Беларусаў: Англічане, Швайцарцы, Мадзяры, Эстонцы, Латышы і інш., ня кажучы ўжо аб Украінцах, якія наагул выдатна памагалі ў працы і інфармацыі аб Беларусах. Няможна абыйсьці моўчкі, каб не падзякаваць старшыні ЦЭСУС'а (Цэнтральны Саюз Украінс. Студэнцтва) Арэлецкаму і украінскай дэлегацыі. Палякі адносіліся не станоўка: ані за, ані проці. Эўрапэйская прэса справу прыняцьця Беларусаў апісала ў большасьці даволі аб'ектыўна.

Факт прыняцьця ў Міжнародную Студэнцкую Конфэдэрацыю, у якой ёсьць 400.000 сяброў ёсьць важным фактам у гісторыі беларускага студэнцтва. Тут былі прынятыя і прызнаныя Беларусы як студэнцтва асобнае нацыі і гаспадарства, ведаючы, што незалежнасьць хоць і на паперы, але маем. Што да далейшае працы АБСА, прынятага ў СІЕ, як арганізацыі апалітычнае, якая прадстаўляе студэнцтва Заходняе Беларусі і эміграцыі, а таксама па магчымасьці інфармуе эўрапэйскае студэнцтва аб беларускім студэнцкім жыцьці ў БСРР і ССРР, прадстаўнікі АБСА адцемлілі, што на выпадак, калі-б студэнцтва ССРР і беларускае БСРР ўступала ў СІЕ, якая хоча навязаць зносіны з студэнцтвам радавых рэспублік, то АБСА ня будзе гэтаму перашкаджаць, будзе старацца аб'яднацца, паколькі будзе магчыма. Беларускае студэнцтва БСРР, калі будзе ўступаць у СІЕ, сказалі прадстаўнікі, пажадана каб уступалі асобна, самастойна па прынцыпу свае гаспадарсьцьвенасьці, а ня зьліваліся ў агульным усесаюзным (рускім) мору. На выпадак немагчымасьці ніякае камбінацыі для супрацаўніцтва, АБСА будзе самастойна прадстаўляць беларускае студэнцтва Заходняе Беларусі і эміграцыі. Чарговым заданьнем цяпер ёсьць прыгатова да конфэрэнцыі АБСА, а таксама прыгатова да конфэрэнцыі СІЕ на 1927 г., якая мае быць у Рыме. У канцы прадстаўнікі АБСА выказалі надзею, што пачынаньню беларускага студэнцтва, якое мела добрую ўдачу, беларускае грамадзянства выйдзе на сустрэчу і будзе па меры сіл памагаць у агульна-беларускай працы, працы інфармацыі і прапаганды аб беларускім народзе і Беларусі наагул і супольнымі сіламі дабівацца ўжыцьцёўленьня нашых культурных і нацыянальных імкненьняў. —*іч.*

*Ад Рэдакцыі.* У пярэднім (29) нумары „Сялянскае Нівы" мы надрукавалі аб конфэрэнцыі СІЕ корэспондэнцыю грам. Я. Ермачэнкі. Пасьле гэтага ад нашага корэспондэнта мы дасталі стацьцю, катораю таксама друкуем, бо ў ёй ёсьць значна новага, не закранутага ў меншай корэсп. грам. Я. Ермачэнкі. Ад сябе адцемім, што СІЕ ёсьць адзіная міжнародная арганізацыя, дзе зарганізавана блізу-што ўсё студэнцтва Эўропы і іншых часьцін сьвету, а дзеля таго выкарыстаць грунт гэты для пашырэньня ведамасьцяў аб Беларусі надта важна. Аб Беларусах заграніцаю надта мала ведаюць. Беларусы як-бы не ўваходзяць у агульна-людзкую сям'ю, ад гэтага шмат трацяць у адносіньні нацыянальным, культурным і гаспадарскім. Думаем, што ўсё беларускае студэнцтва, бяз розьніцы палітычных паглядаў, ня гледзячы на тое, што Бацькаўшчына так парэзана на часткі палітычна нашыма „прыяцелямі", зможа паразумецца паміж сабою і будзе рабіць выступленьні супольнымі сіламі і арганізавана як і пры поўнай згодзе, адкінуўшы разам якое-бы то ні было выслужаваньне і палітыканства.

## Да нашых чытароў.

Просім усіх нашых паважаных чытароў, каторыя дагэтуль ня прыслалі грошаў на падпіску, няхай канечне прышлюць грошы да 1-га кастрычніка (1.X).

Хто да 1 кастрычніка (акцябра) не заплаціць грошаў за газэту, таму ад 1-га кастрычніка змушаны будзем газэту перастаць пасылаць. *Адміністрацыя „Сял. Нівы".*

# Палякі аб беларускай справе.

У вапошнім часе адзінкі з паміж польскага грамадзянства здаецца пераканаліся, што немагчымыя далей такія нягодныя адносіны польскага ўраду да беларускага насяленьня пад Польшчай, якія ёсьць дагэтуль.

Выходзячы з патрэбаў і карысьці польскага гаспадарства, яны зразумелі, што патрэбы Польшчы вымагаюць накшых адносінаў, процілежным дагэтуляшнім.

З гэтае прычыны зьявілася ў „Kurjer'ы Wileński'м" некалькі стацьцёў, аўтары каторых сур'ёзна стараюцца падыйсьці да беларускай справы.

### Аб школьнай справе

беларускай, літоўскай і ўкраінскай напісаў п. Людвік Хамінскі ў стацьці „Szkolnictwo „mniejszości".

Разгледзіўшы, што павінны мець няпольскія народы ў Польшчы паводле польскай канстытуцыі, п. Л. Хамінскі задае пытаньне: „А практыка?" I адказуе гэтак:

„Ці маем тутака прыводзіць сьцягі (рады) бясправеў і надужываньнеў высокіх прынцыпаў, каб груба здушыць асьветныя парываньні няпольскіх народнасьцяў у нас? Ці маем тутака прыпамінаць апухціваўскія загады зьняслаўленага міністра п. Стан. Грабскага? Ці маем ілюстраваць прыкладамі формальнае зьністажэньне школства ўкраінскага і блізу што абсалютнае зьністажэньне школства беларускага пры помачы паліцыйнага ўціску пры так званым плебісцыце школьным летась? Гэта перайшло-б межы сягодняшняй стацьці—будзем напасьледак борада меці магчымасьць прывесьці мэморыялы асьветных арганізацыяў „меншасьцяў", каторыя гэтаю гару зьдзекаў (szykan) і надужыцьцяў, тарнаваных да іх, даволі асьвятляюць.

„Ходзіць нам сягодня аб адно, каб установіць, што дагэтуляшняя палітыка ёсьць надзвычайна візкавокая і на вельмі блізкую мэту вылічаная. Мы любім хваліцца надзвычайнай прыцягаючай сілаю польскай культуры, маючы ў ёй вяліэманыя надзеі палёнізацыйныя. А тымчасам марнуем палітыкаю з аднаго боку безахвоцячаю й адпіхаючаю ўсіх непалякоў ад гэтае культуры, як прыпукаю накіданай—а, з другога боку, ў розных куратарыях (прыпомнім толькі смутнай памяці ўрадаваньне п.п. Гансяроўскага й Сьвідэрскага)—пануе жах, каб пр. літоўскае дзіця часам не пазнала акружаючага сьвету пераз прызму словаў змалку чутых.

„Прыклад найгарачэйшых нашых патрыётаў і незалежнікаў, што прайшлі школу прускаю або маскоўскаю—побач найлёяльнейшых эксцэленцыяў, узгадаваных у польскіх паводле мовы школах галіцкіх—зусім іх не пераконуе.

„Трэба сабе на апошку задаць пытаньне і даць на яго конкрэтны адказ: ці Польшча ставіць сабе задачаю поўнае спалячэньне ўсіх Беларусаў, Украінцаў, Ліцьвіноў, Жыдоў і Немцаў, якіх ёсьць каля 10 міліёнаў чалавекаў у Гаспадарстве? Ці хто-колечы верыць, што ўдасца нам дарогаю ўціскаў даплясць у пару Лігі Народаў і варунках просьлеваенных маладога Гаспадарства тое, што не ўдалося магутным цэсарствам разборным у часох шмат накшых за цяперашнія, ня толькі ў адносінах да нас, Палякоў, але таксама ў адносінах да тых „нягістарычных народаў", як любяць казаць аб Беларусах, Украінцах, Ліцьвінох?

„Дык калі ў гэта ня верыцца—якая-ж мэта ў мэтодзе зьдзекаў і ўціску? Якая мэта калечаньня мовы дзіцяці чужой ім гутаркай ад спачатнага навучаньня? Ці робіцца гэта толькі дзеля таго, каб ад наймалодшых год дзіця пазнала, што сюды хтось чужы прыйшоў, каб над ім запанаваць, каб пачула сваю чужасьць і апрычоннасьць (асобнасьць), каб збунтавалася проці гвалту і каб пасеенае гэткім спосабам зярнё няверы і гарчыні—вырадзілася некалі, як вырасьце, у буйное зельле бунту?

„Ці гэта маем мэтаю?"

I далей:

„Найвялікшы час зьвярнуць з гэтае самагубнае, несправядлівае, нягоднае польскага імені, скажу балей: гаспадарска-абмыльнай дарогі ўціску—не вядучай да жаднае мэты—каб уйсьці на ўтаптанаю шырокаю дарогу справядлівасьці..."

I мы скажам: вялікі час!...

### Зямельнае пытаньне ў Заходняй Беларусі

разглядае п. Бор у стацьці „Reforma rolna a Ziemie Wschodnie". Пан Бор добра разумее значэньне зямельнага пытаньня ў нас, але падыходзіць да яго ня з гледзішча грамадзкай справядлівасьці, ня з гледзішча краёвага, на'т не з гаспадарскага, але вылучна із спэкулятыўна-палітычнага гледзішча польскай гаспадарсьцьвенасьці. Паводле п. Бора Беларусам іхняю зямлю трэба даць, бо інакш яны не перастануць ненавідзяць Польшчы. А калі-б сталася такое дзіва, што беларускія земляробы ўпадабалі Польшчу, дык-бы тады ім зямлі п. Бор ня даў. Гэта беларускія сяляне павінна сабе добра запамятаваць. . Вычуваецца яшчэ, што п. Бор не зварочуе ўвагі на іншыя патрэбы беларускага народу (асьвета і інш.); вельмі дзіўным выглядае прызнаваньне Беларусамі толькі праваслаўных, і што беларускі селянін мае вельмі слабое нацыянальнае пачуцьцё. Усё гэта да значнай меры лучыць п. Бора з эндэцыяй. Можам яго запэўніць, што была калісь гэная прыемная маласьвядомасьць беларускага селяніна, але часы тыя ўжо мінуліся. Беларускія сяляне ўжо сьвядомыя і то ня толькі праваслаўныя, але да значнай меры сьвядомыя і Беларусы-каталікі, шляхта, апрача адзінак, яшчэ несьвядомая, але прыйдзе пара й па яе.

## Із Заходняе Беларусі.

**Зьезд прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства** віленскай епархіі адбыўся ў Вільні на мінулым тыдні.

Зьезд прыняў бяз зьменаў леташні каштапіс выдаткаў духоўнай консысторыі.

Архіерэйскі дом пастаноўлена не прадаваць.

Вельмі цікаўна, што просьба праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Вільні даць ёй, як гэта было ў мінулыя гады, памогі 3 тысячы зал. была адхінена. Пры разглядзе гэтага пытаньня выясьнілася, што вялікая большасьць зьезду не здаволена з бесканечнай рэорганізацыі сэмінарыі, каторая канчальна страціла свой духоўны выгляд і ёсьць звычайнай сярэдняй школаю. Сябры зьезду зварочавалі ўвагу, што праваслаўнае насяленьне не называе сэмінарыю «сэмінарыяй» і лічыць, што рэформатары, пачынаючы ад Маскаля Піліпа Марозава і еп. Антонія і канчаючы Беляўскім, зрабілі ўсё магчымае, каб сэмінарыя ня мела характару духоўнай сярэдняй школы. Сёлета астаецца яшчэ другая багаслоўская кляса (першай багаслоўскай клясы ўжо нямашака), а к налецьцю (налета) зусім ня будзе багаслоўскіх клясаў.

Апрача таго, зьвернена ўвага, што віленская сэмінарыя абслужуе тры епархіі, а грошы на сэмінарыю звычайна давала адна віленская епархія. Сэмінарыя завецца мэтрополітальнай і епархія ня мае да яе беспасярэдніх адносінаў.

У канцы пастаноўлена аднавіць дзейнасьць епархіяльнага складу. Загадчыкам складу зьезд абраў сьвяшч. Каўша.

## Лісты.

### „Птушка шчасьця" на вёсцы.

(Вёска Лявонавічы, Нясьвіскага павету).

Беларуская моладзь пры Лявонаўскай Ахвотніцкай Пажарнай Камандзе сёлета ў нядзелю 8 жніўня ладзіла ў вёсцы Лявонавічах, у Пажарніцкім будынку спэктакль.

Адгуляна была п'еса ў 3 х актах Францішка Аляхновіча пад наз. „Птушка шчасьця". Ужо ад паўдня пачалі зьбірацца каля будынку людзі. Усе: і малыя й старыя сьпяшаліся падзівіцца п'есай, якая спаўнялася першы раз тутака ў вельмі ўсім зразумелай мове. Заля, у якой ладзіўся спэктакль, была надта хораша прыбрана зельлем ды каляровымі йстужкамі. У гадз. 8 увечары распачаўся спэктакль. Надта добрае ўражэньне на гледзячых зрабілі маладыя вясковыя артысты-аматары. Пры слабых матар'яльных варунках, ды малой лічбе асобаў, здольных да гэткае працы, яны патрапілі хораша збудаваць сцэну, дастаць усё патрэбнае, каб задаволіць усім вымаганьням аўтаравым. Ролю Янкі выканаў грамадз. Сяргей Новік, ролю Маланкі —Аляксандра Новік, ролю Жыда—Лукаш Мароз, ролю Лясупа—Міхась Шынгель, Лясных Духаў—вясковыя дзяўчыны. Музыкі з в. Цякалаўшчыны падыгравалі на йскрыпках. Уся публіка была зацікаўлена гульнёю артыстаў-аматараў, што можна была заўважыць гледзячы з боку. Старанна прыслухаваліся ўсе да кожнага слова, пільна угледаліся ў кожны рух артыстаў. Надта ўжо добра выглядала дэкорацыя 2-га акту („Рай"). Трудна было сваім вачом даць веры, што гэта робіцца на вёсцы і ў звычайным будынку. Заканчэньне п'есы было павітана гарачымі воплескамі. Пасьля п'есы хор адпяяў колькі беларускіх песьняў. Пасьля-ж гэтага распачаліся скокі. Музыка была добрая. Настрой панаваў як найлепшы. Кожны з прысутных чуўся на гэтым спэктаклі як у сваёй хаце. Паміж іншым зь вялікай бодрасьцяй некульні разоў адскакалі „Лявоніху". Пазваленьне на спэктакль і на скокі было дастана толькі ў 4 гадзіне на раніцы.

На спэктаклі ўсім здалося, што ўжо-ж вельмі борзда мігнуў час, і ўсе надта шкадавалі, што трэба разыходзіцца па хатах. Зусім ужо развіднелася, калі змоўклі апошнія гукі аркестры ды вясёлыя гутаркі моладзі. Жадаю ад шчырага сэрца, каб лявонаўскія артысты аматары і ў будучыні мелі добраю ўдачу у тварэньні спэктакляў, якую мелі ў першым, пры ўспаміне аб якім радасна робіцца на душы. Хай і ў нашым кутку, у якім ужо колькі гадоў ня было ніякае культурнае працы, блісьне коска *асьветы*. N.

### Якія ў нас войты.

(Кругавіцкая вол., Лунінецкага пав.).

Наш войт вельмі нягодна абыходзіцца зь людзьмі. Гэтак, спаганяючы 10 зал. судовых, лаіў брыдка памаскоўску Адама Грыбоўскага. На мяне кідаўся з паленам і хацеў забраць мае боты; лаіў таксама маю маці і ўсіх у хаце. Гэтакага толькі ізьвязаць да карасінаю абліць і запаліць, а ня войтам яму быць. То што ж як гэта будзе на сьвеце добра, калі войты гэтакія.

Да нас дзеля таго могуць так блага адносіцца, што мы людзі неарганізаваныя. Каб былі мы арганізаваныя ў свой Беларускі Сялянскі Саюз, дык да нас начай адносіліся-б. Дык закладайма Гурткі Беларускага Сялянскага Саюзу, чытайма і пашырайма сваю сялянскаю газэту „Сялянская Ніва". *Н. Волах.*

## НАВІНЫ.

**— Сьвяткаваньне 20 угодкаў беларускае прэсы** было ў Вільні 18 верасьня ў 6 г. ўвечары. На сьвяткаваньне былі запрошаныя прадстаўнікі прэсы літоўскай і польскай і інш. госьці.

Цікаўны рэфэрат аб гісторыі беларускай прэсы прачытаў бацька беларускіх публіцыстых, найстаршы заслужоны рабачай на ніве беларускай прэсы п. А. Луцкевіч.

Былі прачытаны прысланыя прывітаньні ад п. п. Л. Абрамовіча, Ч. Янкоўскага і беларускае моладзі з Варшавы. Прамаўляў п. В. Абрамовіч ад польскага грамадзянства і п. Велецкі ад літоўскага. Вельмі харошаю прамову сказаў п. Велецкі; чулася, што гэта прамаўляе прадстаўнік братняга нам народу літоўскага. П. Велецкі гаварыў пабеларуску і гэта асабліва дэманстравала літоўска-беларускаю прыязьнь. Вельмі пажадана, каб і Беларусы вучыліся палітоўску.

Шкада, што Беларускі Нацыянальны Камітэт не пастараўся, каб у сьвяткаваньню прынялі ўчасьце ўсе беларускія кірункі. Зьвернем увагу, што ўгодкі беларускай прэсы гэта ня толькі мае быць сьвята, але й праца, праца дзеля азнаямленьня шырокіх масаў з узьнікам, развоем і значэньнем беларускай прэсы. Сьвяткаваньне адбылося, дык цяпер павінна была-б пачацца шырока азнаёмная праца.

**— Госьці з цэнтральнай Беларусі ў Вільні.** 18 верасьня прыехалі ў Вільню на некалькі дзён проф. Беларускай Дзяржаўнай Гаспадарскай Акадэміі ў Горках (Радавая Рэспубліка Беларуская) Г. Гарэцкі (брат пісьменьніка М. Гарэцкага) і проф. Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску Некрашэвіч. Успомненыя профэсары командыраваны заграніцу з навуковымі мэтамі.

Проф. Некрашэвіч меў зь беларускімі філёлёгамі ў Вільні нараду ў справе беларускага правапісу й граматыкі.

**— Запісы ў Віленскі Унівэрсытэт.** Ад 15 верасьня запісуюцца студэнты на ўсе факультэты Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні.

**— Мэморыял Літоўскага Т-ва „Rytas".** Літоўскае Т-ва „Rytas" у Вільні падало ў Міністэрства Асьветы мэморыял аб скасаваньні кантролі адміністрацыйных уладаў у літоўскіх школах і аб утварэньні пры Школьнай Куратарыі Адзьдзелу Літоўскіх Справаў. Кіраўніком гэтага адзьдзелу была-бы асоба выбраная тутэйшым літоўскім грамадзянствам.

**— Заразныя хваробы ў Вільні.** У мінулым тыдню сэкцыя здароўя магістрату віленскага адцеміла гэтакія хваробы заразныя: 1) на тыфус брушны хварэла 14 чалавекаў; 2) на тыфус неазначаны—1 чал.; 3) на крываўку—2 ч.; 4) на рожу—1 чал.; 5) на сухоты—2 чал.

## Прысылайце адрасы!

Просім нашых чытароў прысылаць нам як найболей адрасоў сваіх знаёмых, каб мы маглі пасылаць на іх пробныя нумары нашай газэты.

